ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч

Збегаргчы і Павялічыць

№1 (70) • СТУДЗЕНЬ 2012

Увага!

**“Дзедзіч” пачынае цыкл відэапраглядаў пад назвай “Свабода”. Тэлефануйце: (029) 208-79-33.**

# САЛІДАРНЫЯ З БАРАДУЛІНЫМ!



**Акцыя салідарнасці з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным праходзіць у Беларусі. Паэт у дадзены момант знаходзіцца ў хворым стане.**

Збор ахвяраванняў для Рыгора Барадуліна праводзіць беларускі журналіст, паэт і грамадскі дзеяч Глеб Лабадзенка. Падобная акцыя ладзіцца ўжо ў другі раз і ўяўляе сабой збор дабрачынных ахвяраванняў. Кожны ўдзельнік акцыі ў падзяку за ахвяраванне атрымае ў падарунак кнігу Рыгора Барадуліна з аўтографам аўтара. Вось што піша ініцыятар акцыі Глеб Лабадзенка ў сваім блогу:

*Сябры, у 2008 годзе мы з вамі правялі шыкоўную акцыю салідарнасці з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным. У акцыі тады ўзяло ўдзел некалькі соцень чалавек, было распаўсюджана пад 500 кніг.*

*З таго часу сітуацыя не змянілася, таму настаў час паўтарыць гэтую акцыю салідарнасці з Рыгорам Барадуліным, а значыцца - з беларускай літаратурай у ягонай асобе, з Беларушчынай.*

*Як і тады, паўтаруся:*

*1. Рыгор Барадулін не прасіў пра гэта, гэта мая ініцыятыва, якую я ажыццяўляю з ягонага дазволу.*

*2. Акцыя праводзіцца не таму, што Рыгору Барадуліну «няма чаго есці» (як гэта спрабавала выставіць адна вар'ятка мінулы раз), а таму, што паэт жыве сціпла, за званне народнага атрымлівае даплату 105 тысяч рублёў. І калі мы можам выказаць яму сваю любоў і падзяку не толькі на словах - чаму гэтага не зрабіць?*

*3. Гэта - не акцыя па продажы кніг. Вы складаеце ахвяраванне, і а атрымліваеце ў падарунак кнігу з аўтографам Рыгора Барадуліна.*

*У дзядзькі Рыгора назбіралася каля 200 розных кніг з ліку тых, што выходзілі апошнім часам. Акцыя будзе праводзіцца пакуль не скончацца гэтыя кнігі.*

*СХЕМА ЎДЗЕЛУ ТАКАЯ:*

*Вы дасылаеце мэйл на адрас labadzenka@gmail.com са сваім намерам (тэма ліста «Барадулін-акцыя»), дзе пазначаеце:*

- *сваё імя і прозвішча (каму падпісваць),*
- *свой мэйл,*
- *свой мабільны тэлефон,*
- *памер свайго ахвяравання.*

*ДАДЗЕНЫЯ НІДЗЕ НЕ ПУБЛІКУЮЦЦА І НЕ ВЫСТАЎЛЯЮЦЦА.*

*Атрымаўшы ваш мэйл, я паведамляю дадатковыя ўмовы - як можна здзейсніць ахвяраванне.*

*Памер ахвяравання - асабістая справа кожнага. Улічваючы цяперашнія эканамічныя ўмовы, пажаданы памер - ад 50 тысяч. Пры такім разліку ўдасца сабраць больш-менш прыстойную суму. Аднак гэта не значыць, што калі ў вас ёсць магчымасць скласці толькі 20 тысяч, то вам будзе адмоўлена.*

*Памятайце, што акцыя мае 2 мэты:*

*- выказаць салідарнасць любімаму паэту.*

*- сабраць яму найбольшую дапамогу.*

*Любыя пытанні мне можна задаць праз мэйл: labadzenka@gmail.com ці скайп: labadzenka.*

Як паведамляе Радыё Рацыя (racyja.com), па стане на 14 студзеня ў акцыі “Салідарныя з Барадуліным” за шэсць дзён узялі ўдзел больш за 600 чалавек. Глеб Лабадзенка ў інтэрв'ю Радыё Рацыя паведаміў:

- Я вельмі не хацеў, каб гэта акцыя выглядала як нейкае спачуванне хвораму старому чалавеку. Гэта найперш - павага, пашана і салідарнасць з любімым паэтам. Удзельнічаюць звычайныя людзі. І мне вельмі прыемна, што нас шмат - адэкватных, шчырых, сапраўдных беларускіх беларусаў.

За ходам акцыі можна сачыць у блогу арганізатара: www.labadzenka.by.

**Паводле: labadzenka.by, racyja.com**

## У НУМАРЫ:

АДНЫМ РАДКОМ

## ПАСАЖЫРСКАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Моладзевая ініцыятыва "Аазіс" пры падтрымцы "Дзедзіча" правяла свой першы флэш-моб з серыі мерапрыемстваў "Антыкрызісны смех-моб".**

Падчас акцыі маладыя людзі займаліся звыклай для берасцейцаў справай: пры выхадзе з аўтобусаў аддавалі квіткі ўваходзячым у транспарт людзям. Усяго бясплатныя квіткі атрымалі каля 30 берасцейцаў.

Паколькі флэш-моб праходзіў на прыпынках каля ўніверсітэтаў, гэтыя праяздныя дакументы атрымала ў асноўным студэнцкая моладзь, якая адчувае ў гэтым патрэбу. Разам з квіткамі людзям раздаваліся налепкі, якія сімвалізавалі патрэбу моладзі ў ільготах.



Моладзевая ініцыятыва "Аазіс" плануе правесці яшчэ шэраг флэш-мобаў, у якіх будуць гумарыстычна адлюстроўвацца сацыяльныя і эканамічныя складанасці ў краіне.

Арганізатары заклікаюць студэнтаў прымаць актыўны ўдзел у гэтых мерапрыемствах і ўступаць у адмыслова зробленую суполку Укантакце, якую можна знайсці па адрасе: http://vkontakte.ru/club33341299.

dzedzich.org



# НАРОДНЫЯ НАВІНЫ

**Даведаўся пра нешта цікавае для берасцейскай моладзі? Цяпер у цябе ёсць магчымасць распавесці пра гэта наведвальнікам нашага сайта!**




**Ты жывеш на Берасцейшчыне, вучышся ці працуеш, атрымліваеш інфармацыю з сотняў крыніц штодня. Нейкія навіны датычацца толькі цябе ці тваіх блізкіх, а нейкія будуць цікавыя сотням тваіх аднагодкаў.**

Калі ты:
- стаў сведкам надзвычайнага здарэння;
- даведаўся пра цікавае мерапрыемства, якое адбудзецца ў бліжэйшы час;
- зафоткаў прыкольны момант на сваю мабілу;
- схадзіў на канцэрт ці выставу і хочаш падзяліцца ўражаннямі;
- збіраешся ў вандроўку і хочаш запрасіць паболей людзей, каб было весялей;
- твая каманда перамагла ў школьным ці ўніверсітэцкім спаборніцтве —

СМЕЛА ДАСЫЛАЙ ІНФУ НАМ!!!

Цікавая навіна павінна адказваць на 6 пытанняў: Хто? Што? Дзе? Калі? Як? Чаму?

Напішы падрабязна, што адбылося ці адбудзецца, адкажы на гэтыя 6 пытанняў, дадай, калі ёсць, фоткі ці відэа, і сотні берасцейцаў даведаюцца пра гэта. Навіна з'явіцца на сайце цягам 2-х гадзін.

Каб даслаць сваю інфу, пераходзьце па спасылцы: http://dzedzich.org/wp/2012/01/08/narodnyya-naviny, альбо проста зайдзіце на dzedzich.org і знайдзіце банер «Народныя навіны».

dzedzich.org




# У НОВЫ ГОД – З НОВЫМІ ІДЭЯМІ!

**З тваімі ідэямі! Ведаеш, што цікавага і карыснага можна зрабіць для падтрымкі беларускай мовы? Выкажы свае ідэі і атрымай цудоўныя прызы!**

Якую акцыю можна правесці? Якую прадукцыю прапанаваць беларускай моладзі? Падумаць над гэтымі пытаннямі прапануе кіраўнік суполкі Укантакце "Беларусь для кожнага" Віктар Клімус.

За мінулы год найбольш удалай акцыяй суполкі "Беларусь для кожнага" апынулася акцыя "Мову ў кожную таксоўку", што адбылася 21-га лютага. Таксама прайшло апытанне "Што Вы хочаце апрануць заўтра", і некаторыя рэчы з гэтага спісу ўжо выраблены.

Арганізатары заклікаюць далучацца да абмеркавання на старонцы Укантакце "Беларусь для кожнага": http://vkontakte.ru/club23746274. Аўтарам цікавых ідэй і прапаноў абяцаюцца прыгожыя каштоўныя падарункі! Падумайце, што можа паспрыяць вяртанню роднай мовы ў родную краіну, магчыма, менавіта ваша ідэя дапаможа зрабіць вялікія крокі ў гэтым накірунку.

dzedzich.org

# МОЛАДЗЬ НЕ ЖАДАЕ ЖЫЦЬ У БЕЛАРУСІ

## ДЗЬВЕ ТРАЦІНЫ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСАЎ ЖАДАЮЦЬ З'ЕХАЦЬ З КРАІНЫ

**Беларускае пакаленне Y збольшага не збіраецца затрымлівацца на радзіме. Болей за дзьве траціны маладых людзей ад 18 да 24 гадоў жадаюць пераехаць у іншую краіну. Назаўжды.**

Аб гэтым кажуць дадзеныя, апублікаваныя Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў у дакладзе «Рынак працы і працоўныя адносіны для жанчын і моладзі ў Беларусі». Рост эміграцыйных настрояў сярод моладзі можна назваць шакуючым.

68.6% маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 19 гадоў і 69.7% маладых людзей ад 20 да 24 жадаюць з'ехаць за мяжу на пастаяннае месца жыхарства. Аб гэтым сведчаць вынікі нацыянальнага апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаваньняў (НІСЭПД) у траўні 2011г., вынікі якога прадстаўленыя ў дакладзе «Рынак працы і працоўныя адносіны для жанчын і моладзі ў Беларусі».

> ПАВОДЛЕ НІСЭПД, МОЛАДЗЬ – ТАЯ КАТЭГОРЫЯ ЛЮДЗЕЙ, ЯКАЯ ЖАДАЕ З'ЕХАЦЬ У ПЕРШУЮ ЧАРГУ.

А вось сярод усіх апытаных трохі больш за палову не спяшаюцца пакаваць валізкі: 55.3% адказалі адмоўна на пытанне пра магчымасць выезда за мяжу.

Жаданне з'ехаць назаўжды знікае з узростам: прыкладна да 39 гадоў большасць апытаных усё яшчэ марыла аб замежжы. А вось пасля пятага дзесятку наступае пераломам: расце жаданьне жыць у Расеі, але агулам эміграцыйныя настроі падаюць.

**ЗАСТОЙ І ГРОШЫ**




**Адказы на пытанне «Ці жадаеце вы з'ехаць у іншую краіну на пастаяннае месца жыхарства?» паводле ўзроста. Апытанне зачыненае.**

Сацыёлагі тлумачаць такую сітуацыю горшым, чым у папярэднія гады, эканамічным становішчам, беспрацоўем, таксама тыповымі «хваробамі» позняга аўтарытарызму: слабымі перспектывамі кар'ернага росту і агульным застоем.

> ХАЦЯ ЁСЦЬ І ТЫЯ, ХТО ГАТОВЫ З'ЕХАЦЬ ТОЛЬКІ ПА ПАЛІТЫЧНЫХ МАТЫВАХ. НАПРЫКЛАД, У ВЫПАДКУ ДАЛУЧЭННЯ БЕЛАРУСІ ДА РАСЕІ.

– Сённяшняя сітуацыя нагадвае канец 70-х - пачатак 80-х, так званы «росквіт застою» часоў позняга Брэжнева. Сацыяльныя ліфтынгі, якія дазвалялі моладзі выходзіць наверх, рабіцца ўплывовымі фігурамі ў бізнэсе, культуры і палітыцы – яны больш складаныя, чым пятнаццаць-дваццаць гадоў таму, – тлумачыць лічбы доктар сацыялогіі, кіраўнік НІСЭПД Алег Манаеў.

Па словах сацыёлага, звычайна ў падобных апытаннях у жаданні з'ехаць на пастаяннае месца жыхарства прызнаюцца каля 60% маладых людзей. Але цяпер узровень патэнцыйных эмігрантаў дайшоў амаль да 70%.

> КАНЕШНЕ, ЯК КАЖА МАНАЕЎ, З'ЕДУЦЬ НЕ ЎСЕ, «АЛЕ ПАТЭНЦЫЯЛ ВЕЛЬМІ ВЯЛІКІ». ЗБОЛЬШАГА ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ ДАВОЛІ ХУТКА АДАПТУЮЦЦА НА РАДЗІМЕ І ЗОЙМУЦЬ МЕСЦЫ СВАІХ БАБУЛЕК.

А грамадства ўсё роўна прайграе: кансервацыя яго непазбежная, а адзіны варыянт развіцця – праз аўтарытарную мадэрнізацыю.

**КАЛІ ЕХАЦЬ, ТО Ў НЯМЕЧЧЫНУ І ЗША**

Найбольш прывабныя краіны для эміграцыі беларусаў паводле НІСЭПД – гэта ЗША і Нямеччына. Першая папулярная найперш ў самых маладых (як і Польшча), затое Нямеччына вабіць сталейшых людзей (ад 25 да 30 гадоў каля чвэрці апытаных не супраць паехаць менавіта туды).

> РАСЕЯ ЦІКАВІЦЬ КОЖНАГА ДЗЕСЯТАГА З ТЫХ, КАМУ АД 20 ДА 24, А ТАКСАМА САРАКАГАДОВЫХ.

А вось краіны Балтыі як пастаяннае месца пакаленне Y зусім не цікавіць. І старэйшае пакаленне таксама.

Колькасць жадаючых пакінуць краіну сярод маладога пакалення – максімальная з 2004 году. Тады, пасля рэферэндуму, які дазволіў Аляксандру Лукашэнку і надалей выбірацца прэзідэнтам, каля 70% людзей да 25 гадоў гатовыя былі пераехаць.

Пасля эміграцыйныя памкненні змяншаліся, а ў 2009г. толькі 40% моладзі жадалі з'ехаць з Беларусі. Пры гэтым Беларусь усё роўна захоўвала лідзіруючыя пазіцыі сярод краін СНД па колькасці гатовых з'ехаць з краіны, саступаючы бедным Малдове і Арменіі.

Праўда, напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў такія настроі зноўку ўзняліся: 46.3% рэспандэнтаў ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў на пытанне «У будучыні ці хацелі б вы жыць (ці працаваць) у Беларусі?» адказвалі адмоўна.

Пры гэтым болей за 60% грамадства раіла пакаленню Y будаваць кар'еру дзесьці па-за межамі Беларусі.

**Паводле: generation.by**

***Хто апошнім будзе з'язджаць з гэтай краіны – не забудзьце на вакзале выключыць святло!***

## АДНЫМ РАДКОМ

### ОТВЕТ УКРАИНСКОМУ FEMEN – ПОЛУГОЛЫЙ БРЕСТСКИЙ MENEN

**Оригинальным способом выразили активисты молодежной инициативы «Оазис» свой протест в связи с ростом цен.**



Антикризисный «смехмоб» «Воровать не хотим - ходим голыми» прошел 13 января возле магазина «Космос».

Молодые люди, одетые по-летнему (в шортах и легких кофтах), раздавали прохожим печатные материалы. На листках формата А5 содержалась информация о том, насколько выросли цены на топливо, продовольственные и непродовольственные товары, а также как изменился за 2011 год курс белорусского рубля по отношению к доллару.

– Мы хотим рассказать брестчанам, что творится в экономике нашей страны: подорожания, девальвация и так далее. Главная цель акции - информационная, – рассказал один из участников мероприятия Сергей.



К слову, это не первый «смехмоб» в Бресте. Ранее молодые активисты провели антикризисную акцию в городском транспорте. Тогда ребята, выходя из автобуса, передавали входящим пробитые талончики (см. стр. 2).

Антикризисные «смехмобы» проводятся при поддержке Агентства регионального развития «Дзедзич».

**Станіслаў КОРШУНАЎ, Брэсцкая газета**

**ОТ РЕДАКЦИИ:**

В ближайшее время молодые люди обещают провести ещё несколько креативных акций.

Кроме актуализации кризисных явлений в обществе, молодые люди планируют привлекать внимание брестчан к проблеме сохранения белорусского языка и культуры.

На стр. 9 опубликована викторина «Берестейщина», которая проводится «Оазисом» с целью популяризации истории родного края. Читайте и участвуйте!

# "ДЗЕДЗІЧ" ПАВІНШАВАЎ БЕРАСЦЕЙЦАЎ СА СВЯТАМІ

**30 снежня беларускі Дзед Мароз і Снягурка павіншавалі наш горад з надыходзячымі святамі, падаравалі святочныя паштоўкі і пачаставалі цукеркамі.**

"Дзедзіч" напярэдадні навагодніх святаў павіншаваў жыхароў нашага горада па-беларуску: Дзед Мароз і Снягурка разам з валанцёрамі арганізацыі прайшліся па Савецкай, раздаючы віншавальныя паштоўкі, частуючы дзетак цукеркамі і дорачы ўсім святочны настрой.

Падчас акцыі было раздадзена больш за 400 паштовак, мэтай якіх было не толькі ствараць навагоднюю атмасферу, але і нагадаць берасцейцам пра сённяшнія праблемы беларускай культуры, пра парушэнні грамадзянскіх правоў у нашай краіне.

Прапануем чытачам знайсці на паштоўках знакі ці словы, якія дапамагаюць зразумець схаваны сэнс акцыі.

**dzedzich.org**









# ПАВУЧЫЛІСЯ І АДПАЧЫЛІ

**Дзедзічы прынялі ўдзел у семінары "Еўропа для Беларусі", які адбыўся ў Польшчы недалёка ад Тэрэспаля. Набываць веды і завязваць карысныя стасункі ім давялося ў хаце прыхадскога святара XIX стагоддзя.**

Пакуль усе пасажыры электрона Брэст-Тэрэспаль правяралі, ці не тарчаць з-пад вопраткі блокі з цыгарэтамі, і час ад часу нервова ўскоквалі ўсе разам, падпарадкоўваючыся нейкаму таемнаму загаду, невялікая суполка легкадумных людзей жадала аднаго – хутчэй даведацца пра шляхі супрацоўніцтва беларускага грамадства з Еўропай.

А даведаліся мы, дзякуючы семінару, пра некаторыя арганізацыі ў Польшчы, якія займаюцца інтэграцыйнымі сувязямі з Беларуссю. Адна з такіх устаноў – Institutum Orientalium – вядзе даследчую працу па вывучэнні праблем у краінах Усходняй Еўропы і пашырэнні ведаў пра гэтыя краіны ў Польшчы. Яна запрашае да супрацоўніцтва арганізацыі і прыватных асоб, кампетэнтных у пытаннях прадпрымальніцтва і турызму, а таксама студэнтаў.

Мы гэтак жа даведаліся, што палякі, якія жывуць ва ўсходніх краінах, могуць атрымаць падтрымку ў захаванні сваіх традыцый, вывучэнні мовы і знаёмстве з сучаснай польскай культурай дзякуючы арганізацыі "Дапамога палякам на Ўсходзе".

Ужо знаёмая нам фундацыя "Шчаслівае дзяцінства", якая займаецца дапамогай дзецям, у тым ліку з праблемных сем'яў, прадставіла ўсе напрамкі сваёй дзейнасці і цікавыя тэхналогіі.

Семінар адбываўся на польскай мове, што стала для дзедзічаў добрай магчымасцю патрэніравацца ў гутарковым маўленні. Разам з набыццём карысных ведаў нам пашчасціла весела правесці час у знакамітай аграсядзібе Uroczysko Zaborek.

Яна ўяўляе сабой цэлы комплекс пабудоў у стылі шляхецкай сядзібы, які раскінуўся амаль на 50 гектарах на тэрыторыі ландшафтнага парка "Podlaski przelom Bugu" ў атачэнні сасновага лесу і водных заліваў.

Наша група змясцілася ў так званай Plebanii, якая была пабудаваная ў 1880 годзе. Апроч яе, турысты могуць размясціцца, да прыкладу, ў будынку, стылізаваным пад вятрак з сапраўдным ветравым механізмам, а канферэнцыі і трэнінгі можна праводзіць у спецыяльным зале драўлянага касцёла.

Гаспадар сядзібы пан Аркадзіуш Оконь распавёў, што ўсё гэтае багацце не прыйшло да яго ў якасці спадчыны, а стала вынікам уласнай працы. Пачалося ўсё з таго, што яго дзядзька падараваў яму невялікі кавалак зямлі. У 70 –я гады зямля каштавала дробязь, і ён набыў яшчэ 40 гектараў навакольных участкаў усяго за 200 даляраў. "Напэўна, зараз у Беларусі зямля таксама каштуе вельмі мала, і паверце, гэта найлепшае ўкладанне капіталу", – запэўніў нас пан Аркадзіуш.



Дзедзічы пасля вячэры вядуць гутарку пра еўрапейскі шлях развіцця :)

Пасля пашырэння тэрыторыі гаспадар пачаў перавозіць старыя панскія будынкі з навакольных вёсак. Адначасова набываў прадметы інтэр'еру і дэкарацыі, упрыгожваў ландшафт. Нарэшце атрымалася чароўнае месца з адмысловай старасвецкай атмасферай.

**Альбіна ТРУС**

# МОЛОДЁЖНАЯ БИРЖА ПОДВЕЛА ИТОГИ

## БЕЛОРУСЫ И ПОЛЯКИ РАБОТОЙ БИРЖИ ОСТАЛИСЬ ДОВОЛЬНЫ

**Итоги работы биржи молодежных общественных инициатив подвели на конференции в Бресте представители Агентства регионального развития «Дзедзіч» совместно с польскими коллегами из фонда «Счастливое детство». Финальное мероприятие международного проекта прошло в Бресте 15 декабря.**

Как сообщил один из организаторов проекта Дмитрий Шиманский, цель проекта - научить брестскую молодежь проведению общественных инициатив. К участию приглашались школьники и студенты в возрасте от 16 до 22 лет.

Обучение проводилось в игровой форме. Все 35 участников проекта были разделены на 4 группы. В Интернете работал специальный сайт - электронная биржа, где ребята могли за баллы продавать свои или покупать чужие инициативы. При этом очки начислялись не только за продажу идеи, но и за её практическую реализацию.

Кроме того, администраторы могли начислить командам несколько дополнительных пунктов за то, что удалось привлечь большое количество участников, осветить акцию в СМИ и т. д. Побеждала группа, которой удалось заработать наибольшее количество баллов.





По словам Дмитрия Шиманского, за время работы проекта его участниками в Бресте было реализовано свыше 100 инициатив, разных по масштабу и содержанию: от катания на коньках и обнимашек на Советской до проведения конкурса рисунков на асфальте для детей и обучением пенсионеров работе на компьютерах.

Белорусские и польские координаторы довольны итогами работы.

- Это абсолютно новая для Беларуси технология пробуждения гражданской активности молодежи. Что касается вовлеченности самих участников, нам удалось добиться 70% от того, что могло бы быть. Дело в том, что два опекуна групп, которые должны были помогать ребятам с организацией инициатив, учить их, подсказывать, уехали в Польшу, и эти группы участвовали в проекте менее активно, - резюмировал Дмитрий Шиманский.



Представитель польской стороны из фонда «Счастливое детство» Ян Федирко отметил, что сотрудничество в рамках данного проекта планируется продолжить:

- Это очень интересная методика работы для молодежи. Мы проанализируем итоги и посмотрим, как её можно усовершенствовать. Нам бы хотелось реализовать её в новой форме с новыми участниками, - пояснил Ян Федирко.

Кроме подведения итогов, на конференции вручили награды самым активным и креативным. За первое, второе и третье места по количеству набранных баллов представители групп получили плееры mp-5, mp-4 и mp-3 соответственно. Призов (mp-5) удостоились также автор самой креативной идеи и наилучшим образом организованная инициатива. Ею стала акция «Free hugs», организованная на ул. Советской и ставшая известной в городе благодаря соц. сетям (читайте ниже).

Всем участникам конференции вручили также памятные подарки - флешки.

**Станислав КОРШУНОВ, Брестская газета**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Арганізатары праекта спадзяюцца, што ўвесну пачнецца рэалізацыя новага этапу Біржы моладзевых ініцыятываў, у якім змогуць прыняць удзел берасцейскія школьнікі і студэнты. Сачыце за навінамі на сайце dzedzich.org.

# АБДЫМАШКІ НА САВЕЦКАЙ

**Яшчэ ў лістападзе мінулага году перад кінатэатрам "Беларусь" на вуліцы Савецкай у Берасці прайшоў флэш-моб "Free hugs" (бясплатныя абдымкі).**

Яго арганізатары выйгралі прыз Моладзевай біржы грамадскіх ініцыятыў адразу ў двух намінацыях - За самую крэатыўную ідэю і За найлепей арганізаваную ініцыятыву. А на папулярным відэасервісе YouTube ролік пра гэтую акцыю паглядзелі 3000 чалавек.

Прэзентуем кароткі расповед адной з удзельніц пра тое, як усё адбывалася.

Удзельнікаў першапачаткова было не шмат. Можа, надвор'е вінавата было (не дайшлі, здзьмула ветрам у супрацьлеглы бок :) ці проста пасаромеліся, бо мэтай было падыходзіць да зусім незнаёмых людзей і абдымаць іх.

Удзельнікі намалявалі плакаты з вясёлымі надпісамі "абдыму бясплатна" і "абдыму за 0 рублёў" і выйшлі на паляванне. Людзі рэагавалі па-рознаму: нехта спалохана ўцякаў, хтосьці сам далучаўся і пачынаў актыўна абдымаць мінакоў.

Настрой хутка зашкаліла як у мінакоў, так і ў актывістаў. Некаторым дзяўчынкам так спадабалася абдымацца, што прыйшлося проста адрываць іх ад людзей:)

У цэлым сабралося 12 удзельнікаў і некалькі фатографаў, якія зрэдку, кароткімі набегамі нападалі на разумеючых, што тут адбываецца, людзей.

Акцыя доўжылася паўгадзіны, а пасля ўдзельнікі накіраваліся на «афтэпаці» распіваць гарбату з пячэнькамі.

Паглядзець відэа і фоткі можна тут: http://dzedzich.org/wp/2011/11/29/abdymashki-na-saveckaj/.

**МІЛЬВА**



# ОХ УЖО ГЭТЫЯ ЕЎРАПЕЙЦЫ!

**Дзве прыгожыя дзяўчыны атрымалі тытул лепшых знаўцаў самых незвычайных традыцый і звычаяў жыхароў Старога свету. Яны перамаглі ў конкурсе “Ох ужо гэтыя еўрапейцы!”, які праводзіў берасцейскі Еўраклуб сумесна АРР “Дзедзіч”.**






Мы прызвычаіліся чытаць і глядзець перадачы пра незвычайныя традыцыі афрыканскіх плямёнаў, жыхароў азіяцкіх пустынь альбо прастораў Крайняй Поўначы і іншых экзатычных культур. Ну а што можа быць цікавага ў звычайнай Еўропе – ў добра знаёмых нам братоў па індаеўрапейскай сям’і?

Высветліць гэта якраз абраў за мэту конкурс “Ох ужо гэтыя еўрапейцы!”, дзе кожны удзельнік меў распавесці пра нетыповыя для беларускага менталітэту звычаі, якія ён назіраў падчас сваіх вандровак па Еўрапейскім кантыненце.

Першае месца ў выніку працы журы давялося падзяліць паміж двума ўдзельніцамі. Адна з пераможцаў – Вольга Ярамчук – вырашыла падзяліцца не уласнымі назіраннямі, а досведам сваіх сяброў. У выніку яна сабрала шмат цікавых фактаў.

Другая ж пераможца – Кацярына Мшар – пракацілася з экскурсіяй па некалькіх вядомых беларускіх сталіцах – і яе заўважлівае вока прымеціла шмат цікавага.

Пераможцы атрымалі ганаровыя дыпломы і прызы у выглядзе флэшак памерам 8 Gb. Шчыра віншуем!

А чытачам «Дзедзіча» мы прапануем пазнаёміцца з лепшымі працамі конкурсу.

**Альбіна ТРУС**

# ЦУДОЎНА ПАВАНДРАВАЛІ!

**Калі выязджаеш за мяжу, пачынаеш звяртаць увагу нават на самыя маленькія жыццёвыя дробязі. А калі часу дастаткова, і ты маеш магчамасць на ўласныя вочы паглядзець, суаднесці і выдзяліць для сябе пэўныя асаблівасці замежнага жыцця, то смела кажы: “Цудоўна павандравалі!»**

Год таму мне пашчасціла пабываць у такіх краінах, як Аўстрыя, Венгрыя і Італія. Вандроўка была цалкам запланавана турфірмай, таму пэўнага экстрыму адчуць не давялося. Але ў нас быў добры суправаджальнік, які ведаў шмат пра краіны і гарады, знешні выгляд і жыццёвы ўклад якіх мы прымяралі да сваёй асобы.

**ВЕНГРЫЯ**

Першым горадам нашай праграмы быў Будапешт. Перад тым, як уехаць у сталіцу Венгрыі, нам, як звычайна гэта робіцца, абвясцілі ў двух словах культурны план на дзень. І неяк паміж іншым прамільгнула фраза: «Надзвычайная эканомнасць». Эканоміць?!

Прызнаюся: цяжка сачыць за фінансамі, калі вакол цябе разгортваецца казачны горад, у якім адчуванне ўтульнасці і спакою, атмасфера асалоды ад жыцця становіцца часткай цябе, увахозіць у тваю душу-хату, з парога голасна ўскрыкваючы: «Гасцей чакалі?!» .

Можна доўга апісваць усю прыгажосць, але зараз не аб гэтым. Як скончылася культпраграмма і засталося твохі вольнага часу, нас узрадавалі навіной, што завязуць у супермакрет, але ў не зусім звычайны для нас. Па знешнім выглядзе ён быў максімальна просты, а знутры больш паходзіў на склад тавараў, толькі з касіркамі. Было трохі дзіўна хадзіць паміж скрынкамі, набітымі розным таварам, прыглядацца да кожнай, каб не прапусціць незнарок што-небудзь «гэтакае». А знайшоўшы – лезці ў самыя яе нетры за жаданай рэччу. Наогул, ва ўсёй краме амаль не было персаналу. Таннасць тавару таксама абумоўлена сціплым упрыгожваннем (а дакладней, адсутнасцю ўпрыгожвання) паліц са скрынкамі. Вось і кошт тавара атрымаўся значна меншы, чым ў звычайным супермаркеце.

Венгры ўмеюць правільна размяркоўваць свае фінансы. Традыцыйна закупы робіцца раз на тыдзень, што значна скарачае час, якога так не хапае ў сучасным жыцці. Сэканомленыя грошы і час яны з вялікім задавальненнем трацяць на адпачынак, падарожжы і хоббі.

**ІТАЛІЯ**

У Рыме першы раз пракацілася на метро, дзе адразу заўважаеш «стракатасць» людскога асяроддзя. Адзін вылучаецца нацыянальнасцю, другі - адзеннем, трэці - манерай паводзін.

Там шмат чытаюць у транспарце: газеты, часопісы, кнігі. Праз гэта бычыцца неабыякавасць да жыцця, жаданне ведаць, што абываецца ў свеце, развіваць сябе і далучацца да культуры.

Рым. Сучасны мегаполіс вырастае побач з помнікамі даўніны, найноўшыя тэхналогіі мірна ўжываюцца са старасвецкімі традыцыямі. Бадай што самае цікавае ў гэтым горадзе – яшчэ адзін горад-дзяржава ўнутры яго - Ватыкан. Шпацыруючы па плошчы перад саборам Св.Пятра, звярнула ўвагу на турыстаў, якія селі адпачыць там, дзе іх заспела стома - у цэнтры плошчы. Здзівіла менавіта непасрэднасць, з якой гэта рабілася.

**АЎСТРЫЯ**

Такую ж непасрэднасць мы назіралі і ў Вене, ў Палацавым садзе, дзе не толькі моладзь, але і людзі старэйшага ўзросту вольна адчувалі сябе на зялёным покрыве сада. Кожны выбраў сабе ўлюбёны занятак: нехта прыемна праводзіў час у кампаніі сяброў, нехта гуляў у фрысбі ці чытаў кнігу.

Італьянцы і аўстрыйцы (як, напэўна, і іншыя еўрапейцы) свабодна, гарманічна і адэкватна паводзяць сябе ў грамадстве. У іх ёсць ясна асэнсаванае разуменне, што яны - грамадзяне сваёй краіны, Еўропы і ўсяго сусвету.

Яшчэ нязвыклы нам еўрапейскі свет, заснаваны на стабільнасці, даверы, адкрытых межах і неад'емным камфорце жыцця. Так хочацца, каб жыхары Беларусі былі еўрапейцамі не толькі геаграфічна, але і ўнутрана адчувалі гэта.

**Кацярына МШАР**

# ДРУЗЬЯ РАССКАЗЫВАЛИ

**У каждого народа есть свои интересные традиции. То, что совершенно очевидно для одних – странно и нелепо для других. А может, и не так уж странно.**

Я никогда не была в Европе, но истории, которые я буду рассказывать, совершенно реальны. Их авторы и участники – мои друзья и знакомые.

Моя подруга Марина подрабатывала летом на юге Франции. Из этой страны она привезла много разных впечатлений и историй. Она рассказала и о некоторых местных обычаях.

Например, во Франции есть традиция на один из семейных праздников делать пироги, запекая в них маленькие монетки. Кто будет счастливым обладателем кусочка пирога с монеткой – того ждёт удача (или «скорая помощь», как это очень часто бывает). Тем не менее, французы верят в эту традицию, потому что несмотря на все несчастные случаи, они не перестают запекать в пирогах монетки.

А ещё во Франции нельзя целоваться на вокзалах. Даже если вы муж и жена, тем более – если вы влюблённая парочка. Связано это с тем, что в начале прошлого века из-за долгих прощаний часто происходили задержки поездов и путаница в расписании.

Французы вообще странный народ. Если они говорят о восьми днях, значит, они говорят о неделе, а если о пятнадцати днях, то о двух неделях. Вот так любят они прибавлять по лишнему дню.

В Германии, в Берлине, можно устроить пикник прямо перед зданием правительства. Читать утреннюю газету и пить чай на травке у Бундестага. И никто даже косо не посмотрит. В этой истории впросак попал как раз таки немец (это история тоже от Марины, но уже от другой), а не наш земляк, когда захотел посидеть на одной такой лужайке в Минске – и получил нагоняй в виде штрафа от нашего блюстителя порядка.

В той же Германии советуют не ругаться на дорогах, каким бы невежественным и медленно думающим не был бы водитель. Оскорбление на автобане обойдётся вам в 100 евро. По автобанам нельзя ходить пешком или останавливать автомобиль, даже если у вас закончился бензин. Информация от одного знакомого дальнобойщика, который сам не ходил по хайвею и другим не советовал.

Так что запасайтесь бензином и терпением на немецких автобанах и скромностью на французских вокзалах – пригодятся!!!

**Вольга ЯРАМЧУК**

# КРЫТЫКА БрДУ НА САЙЦЕ "ВЯЧЭРНЯГА БРЭСТА"

**Нядаўна на старонках «ВБ» з'явілася інтэрв'ю з рэктарам БрДУ. З яго вынікае, што М.Э. Часноўскі лічыць свой універсітэт ці не лепшым у краіне. Студэнты і выкладчыкі з такой ацэнкай не заўсёды згодныя, што выявілася ў каментарах на сайце газеты.**

Адной з прычын ўзнікнення артыкула з'явілася тое, што першы прарэктар БрДУ Канстанцін Красоўскі публічна на вучоным савеце выказаў сваю нязгоду з палітыкай кіраўніцтва ВНУ і падаў у адстаўку.

Канстанцін Красоўскі быў катэгарычна супраць публікацыі сваёй прамовы і нават вытрымкі з яе. Але Мечыслаў Эдвардавіч змог пракаментаваць выступ Красоўскага на вучоным савеце, аб чым пазней, напэўна, пашкадаваў:

- Я паважаю рашэнне Канстанціна Канстанцінавіча, але не лічу яго разумным. Хутчэй, яно прадыктавана эмоцыямі, а эмоцыі, як вядома, далёка не лепшы дарадца ў падобных сітуацыях.

Пасля публікацыі на сайт www.vb.by пачалі паступаць каментарыі, дзе сённяшнія і былыя студэнты, выкладчыкі і тыя людзі, чый лёс якім-небудзь чынам быў звязаны з гэтай навучальнай установай, выказалі свае ацэнкі працы рэктара і універсітэта. Прапануем вашай увазе некаторыя з каментароў:

***

- Гэта жах, а не універсітэт. Часноўскі ператварыў яго ў ПТУ. Некаторымі факультэтамі кіруюць людзі, якія не маюць ніякага да іх дачынення і нават профільнай вышэйшай адукацыі (затое блізкія да сям'і рэктара). Прыклады такіх таварышаў ўсім вядомыя – на слыху. А вось прыстойных і разумных выкладчыкаў выціскаюць з універсітэта, ствараючы невыносныя ўмовы. На іх месца прыходзяць бездары, якія не могуць звязаць двух слоў, "плаваюць" на ўласных лекцыях, але дагаджаюць рэктарату, – таму і застаюцца, – піша Ігар.

***

- Рэктар Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта не тое што не спрыяе пашырэнню светапогляду студэнтаў і атрыманню новага вопыту, удзелу ў міжнародных праграмах, а ўсяляк перашкаджае.

Як у маім выпадку, забараняў з дэканам філалагічнага факультэта мне ўдзельнічаць у студэнцкай праграме "Work & Travel", якая прадугледжвала моўную практыку ў ЗША на працягу лета. "Што ты там забылася ў Амерыцы гэтай? Чаго едзеш туды?" – пыталіся ў 2 галасы "кіраўнік" універсітэта і дэкан філфака, свята упэўненыя ў тым, што ангельскай мове нідзе лепш немагчыма навучыцца, акрамя як у Берасцейскім універсітэце. І ўсяляк спрабавалі пакараць мяне за непадпарадкаванне і паездку ў Амерыку насуперак наказу нікуды не ехаць.

У выпадку з маёй аднагрупніцай, разумнай і вельмі living рознабаковай дзяўчынай, якая прайшла адбор для паўгадавой стажыроўкі ў адным з еўрапейскіх універсітэтаў, вышэйназваныя 2 чалавека проста не падпісалі пагадненне.

Як у выпадку са шматлікімі іншымі ініцыятыўнымі маладымі людзьмі, якія цікавяцца чымсці, якія шукаюць сябе, але не атрымліваюць падтрымкі, стымулявання, а натыкаюцца на незлічоныя перашкоды. І не ўсім хапае магчымасці і сіл працягнуць самастойна пачаты шлях.

Хтосці ў выніку ціску з боку такіх людзей проста здаецца і губляе ініцыятыву. Хтосці потым бясконца шкадуе пра страчаныя магчымасці набыць нейкія новыя навыкі, веды і вопыт і пра тое, што пайшоў вучыцца менавіта ў гэты універсітэт, дзе твая ініцыятыва караецца і твой працэс развіцця і станаўлення ўсяляк тармазяць, а то і проста перарываюць.

Рэктарам не можа быць чалавек, які навязвае разам са сваімі набліжанымі дэвіз "Сядзіце ціха і не высоўвайцеся нікуды!" – кажа яшчэ нядаўняя студэнтка філфака Кацярына.

***

- Так, гэта ўсё праўда. І па якой прычыне па праграмах абмену ездзяць толькі дзеці дэканаў, выкладчыкаў і прарэктараў... З іншага боку, да нас таксама прыязджаюць студэнты па абмене … З Таджыкістана… Далёка гэтаму ўніверсітэту да еўрапейскага. Спадзяюся, што ў вельмі хуткім часе адміністрацыя універсітэта зменіцца і да кіравання прыйдуць па-сапраўднаму творчыя асобы - дадаў VP.

***

- У пушкінскім універсітэце галоўная праблема ў тым, што кадры расклаліся, гэта значыць, рэктар сваёй палітыкай прывёў да таго, што дэканы моўчкі прызнаюць статус-кво і згаджаюцца з ім. Больш за тое, мяркуюць, што так яно і трэба, «мяне любяць, – і дзякуй богу». Парадуемся за іх, – так адкаментаваў дадзеную сітуацыю адзін з чытачоў ВБ.

***

- А што Вы хочаце ад дэканаў? Яны такія ж людзі, як усе ў гэтай краіне. І калі большасць вакол "маўчыць і надалей, мудра разважаючы, што жыць-та трэба" і мірацца з становішчам у краіне, то чаму Вы выращылі, што дэканы будуць чымсьці адрозніваца ад усяго беларускага народа? ВНУ – гэта краіна ў мініяцюры. І досвед, і паводзіны, набытыя ў звычайным жыцці ў Беларусі, усе пераносяць і на свае працоўныя месцы – працягнуў Л.І.

***

- А лепшага ў нашай краіне чакаць не даводзіцца, калі ўсе кіраўнікі зверху данізу прызначаюцца ў абмен на асабістую адданасць. Прафесіяналізм нікому не патрэбны. Разумным і прыстойным няма выбару, яны не вытрымліваюць і сыходзяць або становяцца такімі ж ад безвыходнасці. Застаюцца бездары, для якіх істотны не вынік, а месца. Так яны і кіруюць гэтым хаасам. Бачнасць парадку толькі звонку, а ўсярэдзіне няма ні адзінства, ні павагі, ні сяброўства. Так лягчэй захоўваць сваё месца і ўладу. Выраджаецца не толькі навука і культура, выраджаецца нацыя. Людзей ставяць перад сур'ёзным выбарам - ці працуеш і маўчыш, ці забудзься пра кар'еру і нават працу. Большасць выбірае першае і апускае краіну ў вялікую прорву, – піша былы студэнт.

***

- Сорамна за такі артыкул, але ўсё праўда. Калі сыходзіла з працы - ніхто не спытаў - чаму. Я добры педагог-практык. Прасіла для душы дайце хаця б дзве гадзіны - няма. Самім мала. Кожны выкладчык цягне сына, нявестку, дачку. Яшчэ і дрэнна, кажаце? Дык выкладчыкі тупей некаторых студэнтаў-завочнікаў. У студэнтаў - вучэльня (а гэта наймацнейшая база) плюс практыка. А выкладчыкі далёкія ад жыцця. Нават не бачылі ў вочы школьных праграм, а выпускаюць студэнтаў для працы ў школе. Літаратуру не чытаюць. Смешна, што многія кампутарамі не валодаюць!

***

- Мабыць прэзідэнт, прызначаючы яго, кіраваўся яго нацыянальнасцю (каб дагадзіць палякам, яго супляменнікам, якія цяпер таго ж прэзідэнта з брудам змешваюць, як і заўсёды ўсіх беларусаў), а не дзелавымі якасцямі, - мяркуе Мікалай.

Рэктар БрДУ М.Э. Часноўскі. Фота: vb.by

***

- Калі звяртаешся да рэктара са сваімі прапановамі і заўвагамі «вочы ў вочы», у яго тэрмінова з'яўляецца куча спраў і ён просіць вас пакінуць кабінет ...

Калі запісваешся да яго на прыём у наступны раз, ужо яго сакратар вас не пускае. Пры гэтым нічога не тлумачыць. Патрабаваў тлумачэнняў, у адказ пачуў «малады чалавек, я выклікаю ахову»...

Але ёсць і такія людзі, якіх дадзеная сітуацыя цалкам задавальняе:

***

- Вельмі добры ВНУ. Можна атрымаць "корку" аб вышэйшай адукацыі кожнаму, хто пажадае, сыходзячы з прахадных балаў. Гэта ж "крута", – маючы жаданне і грошы, але не маючы інтэлекту, быць з вышэйшай адукацыяй.

Некаторым ўсё роўна, што адбываецца за сценамі ВНУ:

***

- Што тут крытыкаваць нейкага рэктара! Новы будзе ці стары, мясцовы ці дасланы – аніякай прынцыповай розніцы!

Большасць лічыць, што «рэктар і рэктарат ў цэлым абавязаны падаць у адстаўку»:

***

- Часноўскага патрэбна было звальняць яшчэ чатыры-пяць гадоў таму, калі "БК" напісаў пра зімовы ледніковы перыяд ва ўніверсітэце: студэнты і выкладчыкі мерзлі без ацяплення і сядзелі ў аўдыторыі ў шапках і куртках, а Часноўскі раптам пабудаваў сабе вялізную кватэру, - абураецца Алена.

***

- Часноўскі абавязаны ў самы кароткі тэрмін пакінуць сваё месца працы, патлумачыўшы гэта простай прычынай: не справіўся са службовымі паўнамоцтвамі. Лічу, што яго месца павінен заняць першы памочнік Генадзь Іванчын, - дадаў Кароўеў.

Некаторыя прапаноўвалі «адправіць усю гэтую перапіску поштай у рэзідэнцыю А.Г. Лукашэнкі».

Пасля з'яўлення некалькіх дзесяткаў каментарыяў рэдакцыя «ВБ» спыніла дыскусію на сайце «у сувязі са шматлікімі парушэннямі рэгламенту». Таму, калі Вам ёсць яшчэ што-небудзь дадаць – калі ласка. Наша газета спрыяе гэтаму - дасылайце свае заўвагі на адрас: dzedzich@tut.by.

dzedzich.org

# «КДБ праслухоўваў рок-канцэрты»

## Прызнанне былога дырэктара ДК

**Рэжысёр Уладзімір Яшчук, які быў дырэктарам берасцейскага Дому культуры чыгуначнікаў, прызнаўся ў інтэрв'ю «Тузіну Гітоў», што даў дазвол КДБ на праслухоўванне рок-канцэртаў ды распавёў, як быў зачынены адзіны ў горадзе рок-клуб «Цытадэль»: «Я выдзяліў кэдэбэшнікам асобны пакой, дзе яны ўвесь час сядзелі. Трэба аддаць ім належнае, яны сапраўды ні ўва што не ўмешваліся і не перашкаджалі. Я быў змучаны пастаяннымі паклёпамі, быццам у нас на канцэртах творыцца невядома што, а грошы мы не ў дзіцячыя дамы накіроўваем, а нібыта сабе забіраем».**

Ня надта пухлая картонная тэчка на завязках. Надпіс алоўкам, абведзены светла-зялёным фламастэрам: «Рок-клуб „Цытадэль“». Тут газетныя артыкулы, службовая перапіска, тэксты песень ды іншыя сведчанні таго, што з 1997 па 2004 год Дом культуры чыгуначнікаў Берасцейскага аддзялення Беларускай чыгункі даваў прытулак моладзевай рок-тусоўцы. Намучыліся супрацоўнікі і з нефармаламі, і з гарадзкімі ўладамі, і нават з нячыстай сілай. Але клуб не кідалі. Праўда, даволі хутка лёс рок-канцэртаў перастаў ад іх залежыць.

Даведаліся мы пра тэчку пры паказальнай аказіі. На золку сёлетняй «чорнаспісавай» гісторыі, калі адмяніўся канцэрт Вайцюшкевіча ў Берасці, мы збіралі подпісы на імя міністра культуры Латушкі з хай наіўнай, але мэтай дамагчыся ўсёж такі дазволу на правядзенне выступу, а разам з тым, каб выказаць пратэст супраць падобных з'яваў. Сярод падпісантаў быў рэжысёр моладзевага эксперыментальнага тэатру «Люстэрка», былы дырэктар Дома культуры чыгуначнікаў Уладзімір Яшчук, які пра Вайцюшкевіча не ведаў анічога, але, паслухаўшы гісторыю адмены канцэрту, не вагаючыся паставіў подпіс і сказаў: «Подласць — спачатку дазволіць канцэрт, а пасля забараніць. Гэта тое ж самае, калі жанчына абяцае сэкс, а пасля перадумвае».

Не прайшло шмат часу, як рэжысёр патэлефанаваў і між іншым пацікавіўся: «Іна, а што там за спявак, за якога я падпісаўся? Мяне тут гарадскі аддзел ідэалогіі ў поўным складзе пясочыў, што „ўсялякае гаўно“ падпісваю. Вы ж ведаеце, што подпісы ўжо ў гарвыканкаме?» Сказана было жартам — апальны рэжысёр ні на кроплю не сумняваўся ў слушнасці свайго ўчынку. Тады ж Яшчук і выдаў, што ўсе гэтыя забароны не цмяна, а вельмі нават яўна нагадваюць яму гісторыю рок-клубу «Цытадэль».

— У 1997 годзе прыйшоў да мяне мой харошы знаёмы Пацям (вядомы саліст гурта Onegin Алег Сцепанюк, цяпер прадусар рок-гурта D_tails) і прапанаваў правесці рок-канцэрт. Мы зрабілі адзін-другі і пасля гэтага вырашылі стварыць пры ДК рок-клуб. Канцэрты сталі праходзіць рэгулярна, усе былі дабрачыннымі. Гады два чыноўнікі намі не цікавіліся, нават тэксты песняў не патрабавалі. Так было недзе да 1999 году.

**Кантроль за рокерамі праяўляўся толькі ў гэтым?**

Скажу шчыра… чаго мне ўжо баяцца? Праз паўтара гады існавання клубу на мяне пачалі псіхалагічна ціснуць. Былі званкі нібыта ад бацькоў, патрабаванні пакінуць іх дзяцей у спакоі. Нават маме маёй тэлефанавалі: «Скажыце свайму барану, каб не праяўляў ініцыятыву на працы». Яна, бедная, прытомнасць ад гэтага траціла. Пагражалі вельмі шмат. Акрамя таго, менавіта ў гэты перыяд з майго кабінета разоў 12 кралі грошы. Нібы нячыстая сіла завялася. Заходжу ў кабінет — а там мая чорная канцэртная кашуля вузлом завязана або чайнай лыжка на сцяне прыклееная вісіць. Я не ведаў, на каго думаць, таму не давяраў нікому. Гэта капітальна вымотвала.

І тут прыходзяць да мяне на прыём два чалавекі з маленькім чамаданчыкам, на якім гарыць чырвоны агеньчык. Я адразу вызначыў супрацоўнікаў НКУС (так спадар Уладзімір называе сучасных прадстаўнікоў спецслужбаў). Яны пачалі ласкава так гаварыць пра канцэрты і прасіць садзейнічання ў праслухоўванні. Я сказаў: «Калі ласка, сачыце, мы ж нічога супрацьзаконнага не робім, толькі не перашкаджайце». З гэтага часу ўсе тэлефанаванні і астатнія незразумелыя рэчы перапыніліся. Гэта дае падставы меркаваць, што цкаванне было арганізаванае кэдэбэшнікамі, каб хутчэй схіліць мяне да супрацоўніцтва. Але праўды я не ведаю дагэтуль.

**Якім чынам вялося праслухоўванне?**

Я выдзяліў кэдэбэшнікам асобны пакой, дзе яны ўвесь час сядзелі. Трэба аддаць ім належнае, яны сапраўды ні ўва што не ўмешваліся і не перашкаджалі. Па шчырасці стукачом не пачуваўся. Я быў змучаны пастаяннымі паклёпамі, быццам у нас на канцэртах творыцца невядома што, а грошы мы не ў дзіцячыя дамы накіроўваем, а нібыта сабе забіраем. Надакучыла ўсё проста.

Што такога было на канцэртах, што яны выклікалі такую пільную ўвагу ідэолагаў, КДБ і крытыку ў друку?

Публіка там збіралася вельмі неардынарная. Дзіўна апранутыя, часта выпіўшыя ці падколатыя маладыя людзі з адпаведнымі паводзінамі. Таму мы першапачаткова і баяліся брацца за гэтую справу. Шмат чаго было на пачатку: і безліч піва з сабой неслі, і блявалі ў залі, і без білета намагаліся прайсці, і шпрыцы мы знаходзілі, праўда ёсць верагоднасць, што падкінутыя. Адзін раз я нават па пысе атрымаў.

**Чаму ж вы ўпарта трымаліся за гэты рок-клуб?**

Таму што я бачыў, што гэтыя падлеткі паддаюцца выхаванню, калі ім давяраць. Таму што лічыў, што хай яны сваю негатыўную энэргію лепш ў матлянне галавой і скокі выкідваюць, чым у нешта іншае. Напрыклад, той фраер, што мяне ўдарыў, на другі дзень прыйшоў выбачацца, а пасля яшчэ і за дысцыплінай у залі сачыў. Калі мы на пачатку выносілі з залі пад сотню бутэлек з-пад піва, то ў 2002 годзе не налічвалася і дзясятку. Гэта мяне вельмі радавала. На маіх вачах праблемныя падлеткі станавіліся людзьмі — толькі таму, што ад іх у свой час не адвярнуліся. І я гэтым ганаруся.

**Але клуб усё адно спыніў існаванне. Чаму?**

Відаць, пачаў мяняцца час, але не толькі таму. У мясцовай газеце неяк быў надрукаваны ліст маёра міліцыі Сізова. У яго падчарка ці то на шызу захварэла, ці то ў блуд пайшла, я ўжо дакладна не памятаю. А паколькі яна наведвала нашыя канцэрты, то маёр абвінаваціў у гэтай сямейнай трагедыі выключна клуб і мяне. Тады паступова і перасталі дазваляць канцэрты. Апошні адбыўся ў траўні 2004 году. Яго спачатку дазволілі, а ўвечары напярэдадні канцэрту нечакана забаранілі. Я не ведаў, што рабіць, бо запрошаныя з Польшчы музыкі ўжо выехалі. На сваю рызыку я вырашыў канцэрт усё ж правесці, але пачаць не ў шэсць гадзін, як па праграме, а на гадзіну раней. Патэлефанаваў Пацяму, ён хуценька перадаў астатнім.



Уладзімір Яшчук

Роўна а шостай гадзіне прыехалі менты ў бобіках мяне арыштоўваць. Была яўная падстава, яны ведалі, што канцэрт адмяніць я не змагу. Кайданкі не апраналі, але трымалі нагатове, зачытвалі артыкул з закону «Пра масавыя мерапрыемствы», хацелі прышыць мне правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства. Але перадусім патрабавалі спыніць канцэрт.

**Чым закончылася справа?**

Мяне выратавалі ад арышту тыя самыя кэдэбэшнікі, што праслухоўвалі канцэрты. Я выйшаў на сцэну і сказаў: «Тыя, хто мяне чуе, выйдзіце, калі ласка, патрэбная ваша дапамога». Яны выйшлі, я расказаў ім, што адбываецца, і яны хутка вырашылі пытанне. Праўда, адвялі ў бок пасля і сказалі: «Слухайце ўважліва: сёння нічога не было. У справаздачах напішаце, што канцэрт адмяніўся. Ясна?» Менты з'ехалі ні з чым. Я так зразумеў, што ў іх проста адвечная барацьба за сферы ўплыву паміж ведамствамі. Тым кэдэбэшнікам я буду ўдзячны вечна.

**А што канцэрт?**

Канцэрт працягнуўся. Але ён, як я ўжо сказаў, быў апошнім.

**Куды ж перасяліліся рок-выканаўцы?**

У парку гралі, пасля, здаецца, перайшлі ў клуб на Вульку. Але ўсё гэта было ўжо ў іншых маштабах.

Ад сябе дадам, што і сёння берасцейскія гурты не маюць нармалёвай пляцоўкі для выступленняў. Вынікі аднаго з апытанак, што праводзіліся сярод шэраговай моладзі, паказваюць, што яна абсалютна незнаёмая з творчасцю мясцовых гуртоў. На закіды ў свой бок музыкі адказваюць «А дзе выступаць?» і, як сапраўдныя беларускія мужчыны па Хадановічу, маюць рацыю. Горад дагэтуль не ў стане запоўніць той прабел, што ўтварыўся з разгонам рок-клубу «Цытадэль», хоць пляцоўка ДК — гэта і далёка не верх мараў выступоўцаў.

Ужо на парозе падчас развітання Ўладзімір Яшчук сказаў: «Няпростая гэтая справа з рок-клубам, ох, якая няпростая… Мы яшчэ шмат чаго з вамі не ведаем. Дзіўна, што з журналістаў толькі вы ёю зацікавіліся». Сапраўды дзіўна: як паказвае практыка, і няпростыя гісторыі паўтараюцца, абрастаючы хіба новымі пластамі абсурду.

І яшчэ дэталь. Уладзімір Яшчук, хоць і на іншай пасадзе, але дагэтуль працуе ў тым жа ДК. Пры гэтым размаўляць шчыра не баіцца. Як чалавек сапраўды свабодны духам.

**Іна ХОМІЧ, «Тузін Гітоў»**

